Пролетары! Ўсіх краін, еднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б
і абласнога выканаўчага камітэта

Год выдання другі

№ 289 (358)
АЎТОРАК
17
СНЕЖНЯ
1940 г.

Цана 10 капеек.

***15 снежня свабодныя грамадзяне і грамадзянкі нашай вобласці аднадушным галасаваннем за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных прадэманстрыравалі сваё адзінства, сваю згуртаванасць вакол партыі большэвікоў і любімага Сталіна.***





**У дзень выбараў дэпутатаў у мясцовыя Советы па гарадах і вёсках Беластоцкай вобласці.** На здымках (злева направа): 1) На 51 чыгуначным выбарчым участку ў Беластоку галасуюць чыгуначнікі. 2) На участку № 1 пасёлка Васількова галасуюць стаханаўцы 8-га тэкстыльнага камбіната. 3) На ўчастку № 3 супраслеўскага Сельсовета галасуюць сяляне вёскі Студзянкі.

Фота А. Сапіра.

## БЛІСКУЧАЯ ПЕРАМОГА СТАЛІНСКАГА БЛОКА КОМУНІСТАЎ І БЕСПАРТЫЙНЫХ

15 снежня адбыліся выбары ў мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Гэты дзень прайшоў як вялікае ўсенароднае свята, як дэманстрацыя любві і адданасці вызваленых народаў да вялікай партыі большэвікоў, да любімага правадыра таварыша Сталіна.

Людзі ўсіх нацыянальнасцей і ўзростаў, рабочыя, работніцы, сяляне і сялянкі, калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі, інтэлігенцыя і служачыя, пенсіянеры і студэнты—усе яны дружна ішлі да выбарчых урнаў. Кожны імкнуўся першым выканаць свой грамадзянскі доўг перад любімай радзімай. На ўсіх выбарчых участках Беластока, Гродна, Ломжы і Граева яшчэ да 6 гадзін раніцы сабраліся тысячы выбаршчыкаў і з нецярпеннем чакалі пачатку галасавання. Такія-ж факты адзначаны і ў вёсках. У вёсцы Вялікая Берастовіца, Крынкаўскага раёна, да 6 гадзін раніцы на ўчастак сабралося больш 250 чалавек. Ужо к 8 гадзінам раніцы па Крынкаўскаму раёну прагаласавала 73 проценты да агульнай колькасці выбаршчыкаў.

Многія выбаршчыкі на чале з сваімі агітатарамі прыходзілі на выбарчыя ўчасткі ў арганізаваным парадку. Агітатар горада Беластока В. Паўлючак прышоў з сваімі 30 выбаршчыкамі на ўчастак да 10 гадзін раніцы. У Лапскім раёне арганізавана з'явіліся на ўчастак усе члены сельскагаспадарчай арцелі імені 8 сакавіка. Яны запрасілі з сабой сваіх аднавяскоўцаў аднаасобнікаў у колькасці 30 чалавек. Выбаршчыкі прыходзілі на ўчастак цэлымі сем'ямі. Рабочы горада Гродна тав. Жэхавіцкі Абрам з'явіўся на ўчастак з усёй сваёй сям'ёй у колькасці 9 чалавек. Апускаючы бюлетэнь у выбарчую ўрну, ён заявіў: «Мы дзякуем совецкую ўладу, партыю і вялікага Сталіна за свабоднае і радаснае жыццё. Мы з вялікім задавальненнем галасуем за кандыдатаў блока комуністаў і беспартыйных».

Як непадобны гэтыя выбары на камедыю «выбараў» пры польскіх уладах. У рабочым раёне «Выгода» (Беласток), дзе раней жылі адны беспрацоўныя і бедната, польскія ўлады зрабілі ўсё, каб з 1.700 выбаршчыкаў ніхто не «паспеў» з'явіцца к устаноўленаму тэрміну да выбарчай урны. А зараз рабочая Выгода дружна галасавала, і ўжо да 9 гадзін вечара галасаванне тут было поўнасцю закончана.

**Калі раней польскім уладам** прыходзілася сілай і пагрозамі прымушаць выбаршчыкаў «галасаваць»— і то палова выбаршчыкаў не ішла да урнаў,—то зараз народ на аснове Сталінскай Канстытуцыі ішоў да выбарчых урнаў з песнямі і музыкай. У Заблудаўскім раёне сялянка Марыя Лукашэвіч, апускаючы бюлетэнь у урну, тут-жа зачытала ёю напісаны верш:

Слава Кремлю золотому,
Слава сталинской звезде,
Слава Сталину родному,
Слава сталинской земле!

Прысутнічаўшыя на ўчастку выбаршчыкі наладзілі тав. Лукашэвіч бурную авацыю.

На абсалютнай большасці выбарчых участкаў галасаванне скончана на многа раней устаноўленага часу. На Клімовецкім участку, Граеўскага раёна, усе 500 выбаршчыкаў закончылі галасаваць да 10 гадзін раніцы. У Чыжаўскім раёне да 12 гадзін дня закончылі галасаванне Шульбоўскі і Каленчанскі сельсоветы з колькасцю выбаршчыкаў у 2.500 чалавек. У Беластоку рад участкаў, як напрыклад, участак №№ 3 і 5 закончылі галасаванне на 100 процантаў да 14 гадзін дня. Ужо да 8 гадзін вечара прагаласавалі ўсе 100 процантаў выбаршчыкаў Бранскага, Аўгустоўскага, Граеўскага і Свіслацкага раёнаў. У цэлым па вобласці, па няпоўных даных, у выбарах удзельнічалі амаль усе 100 процантаў выбаршчыкаў.

Да дня выбараў многія калектывы прышлі з выдатнымі поспехамі. У 12 гадзін ночы 14 снежня закончыў гадавую праграму гродненскі шкляны завод. У гэты дзень завяршыў гадавы план монькаўскі скурзавод. Яшчэ напярэдадні закончылі гадавую праграму рад тэкстыльных прадпрыемстваў, валкавыскі цэментны завод, беластоцкі чыгуналіцейны завод і іншыя.

Дні напярэдадні выбараў азнаменаваліся важнымі палітычнымі падзеямі ў вёсцы. У Скідэльскім раёне ў вёсцы Баброўня 22 сялянскіх двары аб'ядналіся ў калгас і на першым арганізацыйным сходзе прысвоілі калгасу імя 15 снежня ў чэсць выбараў у мясцовыя Советы. У радзе вёсак Крынкаўскага і іншых раёнаў сотні сялян падалі заявы з просьбай арганізаваць у іх калгасы.

Выбары закончаны. Выбраннікі народа атрымаюць пасведчанні аб іх выбранні. З першых-жа дзён дэпутаты павінны энергічна ўзяцца за работу па выкананню тых наказаў, якія яны атрымалі ад сваіх выбаршчыкаў. Яны павінны нястомна працаваць на дабро сваіх выбаршчыкаў, на дабро ўсяго народа.

Нашым партыйным арганізацыям патрэбна ўжо зараз намеціць рад канкрэтных мерапрыемстваў, каб ні на адзін дзень не аслабляць палітычна-масавую работу з насельніцтвам. Той размах агітацыйна-масавай работы, які быў у час выбарчай кампаніі, павінен стаць пастаянным метадам партыйнай работы ў масах. Трэба рашуча асудзіць малейшую спробу аслабіць зараз работу з масамі, адпачыць, моў, пасля выбараў. Трэба і далей працаваць з выбарчым актывам, расціць новых людзей, новы актыў, на які партыйныя арганізацыі павінны апірацца ў сваёй паўсядзённай рабоце.

Трэба ўсяляк замацаваць той вытворчы ўздым, які быў у час выбарчай кампаніі і яшчэ вышэй узняць прадукцыйнасць працы, каб заваяваць новыя перамогі нашай соцыялістычнай радзімы.

## *ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ У БЕЛАСТОКУ*

### ЛІКУЮЧЫ БЕЛАСТОК

З вечара настаўляліся будзільнікі. На тры, на чатыры, на пяць гадзін. Суседзі дагаварваліся пабудзіць адзін другога, каб пайсці разам.

Горад Беласток яшчэ з вечара выглядаў урачыста. Старанна, з любоўю ўпрыгожаны, ён зіхацеў хараством свайго святочнага ўбрання. Вулічны рух у горадзе амаль не спыняўся ўсю ноч.

Дзве гадзіны ночы. З дома № 3 па Ленінскай вуліцы вышла **Фая Зелікін**.

— Куды вы, бабулька?

— Галасаваць, сынок.

— Рана-ж яшчэ. Толькі дзве гадзіны.

— А я на гадзіннік не глядзела. Я-ж і вясной на выбарах была першай.

І 70-гадовая бабулька, абапіраючыся на кіёк, памаленьку пайшла на ўчастак № 5. А напярэдадні, калі агітатар заходзіў у дом № 3, ён занёс старэнькую Фаю ў спіс выбаршчыкаў, да якіх трэба прыслаць машыну.

Людзі ведаюць, што няма неабходнасці прыходзіць на ўчастак ў дзветры гадзіны. Але кожны хоча быць першым. Такі ўжо стыль совецкага жыцця: быць першым, не адставаць.

5 гадзін раніцы. З усіх канцоў горада па аснежаных вуліцах ідуць выбаршчыкі: парамі, групамі, у адзіночку. Пачынаецца вялікі, радасны дзень.

В этот светлый день хрустальный,
Улыбающийся день,
Миллионы скажут: **Сталин,**
Опуская бюллетень.

Выбарчы ўчастак № 8. Без чвэрці 6 гадзін. Каля 50 выбаршчыкаў чакаюць пачатку выбараў, трымаючы напагатове пашпарты ў руках.

Гадзіннік паказвае без 10 мінут шэсць. Духавы аркестр грае «Інтэрнацыянал». Урачыста і велічава гучыць мужны матыў пролетарскага гімна. Гучыць медзь аркестра, магутнай хваляй разліваецца па пакоях участка, імкліва вырываецца на вуліцу, апавяшчаючы аб пачатку доўгачаканага дня. І здалёку, з сэрца краіны—з высокага Крэмля чырвонай Масквы, скрозь снежныя прасторы радыёхвалі прынеслі сюды свежыя, усё нарастаючыя гукі «Інтэрнацыянала». І тут, на невялікай вуліцы Беластока, музыка гімна з-пад чырвонай зоркі Крэмля злучаецца з музыкай аркестра ў адзіную, урачыста-велічавую, своеасаблівую сімфонію народнага свята.

Мінутная стрэлка гадзінніка набліжаецца да 12. Рука дырыжора аркестра застыла ў паветры, гатовая імкліва апусціцца ўніз і прыпыніць музыку, але новы матыў песні ўрываецца ў памяшканне ўчастка.

Гэта прышлі арганізаваным парадкам выбаршчыкі 77-й выбарчай акругі з песняй «Если завтра война...»

6 гадзін. Старшыня ўчастковай выбарчай камісіі тав. Дзікаў абвяшчае:

— Таварышы! Віншую вас з вялікім урачыстым святам—з днём выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Прашу прыступіць да галасавання.

— Няхай жыве совецкая ўлада, прынёсшая нам вызваленне і шчаслівае жыццё! Няхай жыве таварыш Сталін—наш бацька і заступнік наш! —усклікае ў адказ выбаршчыца тав. Шылак.

Першай атрымлівае бюлетэні ў мінулым батрачка, цяпер работніца тэкстыльнай фабрыкі № 20 Шылак Станіслава Францаўна. Яна прышла на ўчастак яшчэ ў дзве гадзіны ночы. «Прагаласаваць першай», —гэта думка займала яе ўсе апошнія перадвыбарчыя дні. І свой намер 62-гадовая жанчына здзейсніла.

Адыходзячы дамоў Станіслава Францаўна развітваецца з выбарчай камісіяй: «Бывайце заровы. Жадаю поспехаў у рабоце. Хай доўгія годы і ў добрым здароўі жыве таварыш Сталін, прынёсшы нам светлае, радаснае жыццё, хай мацнее і пашыраецца ўшыр і ўдоўж вялікая наша дзяржава».

Радасна і ўрачыста на ўчастку. Прышоўшы яшчэ ў 5 гадзін і прагаласаваўшы адным з першых, 78-гадовы Астроўскі Алексей Вікенцьевіч не хоча ісці дамоў. Бестрывожна курыць ён люльку на дыване. Сівы дзед, ён успамінае ў гэтых святочных абставінах сваё гаротнае батрацкае жыццё. А цяпер, поўнапраўны грамадзянін Совецкага Саюза, ён, як і ўсе яго суседзі, выбірае мясцовыя органы ўлады.

На выбарчым участку № 5 к пачатку галасавання было ўжо 52 выбаршчыкі. Участак добра абсталяван. Кабіны абрамлены чырвоным аксамітам, з густам развешаны партрэты правадыроў, лозунгі, плакаты. У пакоі адпачынку — журналы, газеты, мастацкая літаратура, шахматы. Прагаласаваўшыя выбаршчыкі адпачываюць тут, дзеляцца ўражаннямі дня. У дзіцячым пакоі дзеці забаўляюцца разнастайнымі цацкамі, частуюцца гасцінцамі.

Палескі выбарчы ўчастак № 9. Адзін за другім да урны падыходзяць выбаршчыкі. Многія з іх нават не заглядваюць у кабіны.

— Мы прамой дарогай, — адказваюць яны на просьбу дзяжурнага члена камісіі зайсці ў кабіну для галасавання. Выбаршчыкі ведаюць сваіх кандыдатаў. Яны ўжо даўно абдумалі і рашылі. Гэта фабрычная ўскраіна горада. Асноўная маса выбаршчыкаў — рабочыя. Яны выбіраюць у мясцовыя органы ўлады сваіх-жа таварышоў — старую работніцу 16-й фабрыкі Вікторыю Антонаўну Бакс, дачку каменшчыка, цяпер вінтаўшчыцу 20-й фабрыкі Софію Іванаўну Лукашук, рабочага Марыяна Владыслававіча Цесляка.

У памяшканне па Совецкай № 2 сцякаюцца звесткі аб ходзе галасавання па 16 участках 4-й Совецкай акругі па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных. Ужо ў 7 гадзін вечара з 4-га ўчастка, што на Авіяцыйнай вуліцы, паведамляюць:

— Усе выбаршчыкі ўчастка прагаласавалі.

Другім па акрузе закончыў галасаванне Вузаўскі ўчастак № 7.

... Беласток галасуе. Тысячы бюлетэняў — зялёных і белых лісткоў падаюць у урны. Свабодныя совецкія грамадзяне, працоўныя, вызваленыя з-пад панскага ярма, выбіраюць мясцовыя органы совецкай улады, галасуюць за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Народ дэманстрыруе сваё маральнае і палітычнае адзінства, дружбу нацыянальнасцей, адданасць і любоў да комуністычнай партыі, да вялікага Сталіна.

Беласток лікуе. Песні і музыка грымяць пад дахамі дамоў.

**М. Семашка.**
**Т. Лясовіч.**

### ВЫГОДА ГАЛАСУЕ

Ля палескага вакзала знаходзіцца прадмесце Выгода. Калісьці гэта быў раён беднаты, падзёншчыны, беспрацоўя і жабрацтва. Тут жылі рабочыя прылягаючых фабрык і заводаў. Зараз насельніцтва Выгоды складаецца ў сваёй большасці з тэкстыльшчыкаў—рабочых 3-га камбіната, 1-га камбіната, плюшавай фабрыкі і іншых.

Насельніцтва Выгоды пераважна польскае. Але польскія правіцелі не любілі Выгоды і яе жыхароў. Тут у час вялікай забастоўкі 1933 года адбываліся мітынгі, якія канчаліся сутычкамі з паліцыяй; жанчыны сцягвалі паліцэйскіх з коней, дзеці кідалі ў іх каменнямі. Але і ў «спакойны» час блюсціцелі буржуазнага парадку неахвотна паяўляліся ў цёмныя восеньскія і зімнія вечары ў вулачкі пролетарскай Выгоды.

Выгода з свайго боку мела ўсе асновы зненавідзець уладу капіталістаў і буржуазных гаспадароў Беластока. Чыноўнікі ваяводства, якія праводзілі выбары ў органы самаўпраўленняў, усямерна ўшчымлялі выбарчыя правы жыхароў Выгоды. У 1934 годзе галасаванне было так арганізавана, што з 1.700 выбаршчыкаў Выгоды ніхто не «паспеў» да 8 гадзін вечара ўвайсці ў памяшканне выбарчага ўчастка—іх галасы прапалі...

Былыя «бацькі горада» не клапаціліся аб Выгодзе. Вуліцы яе незабрукаваны. Увосень ці вясной немагчыма па іх прайсці—прахожыя прабіраюцца па сцежках, ціснуцца да парканаў. Увечары амаль уся Выгода танула ў цемры, толькі па шасе свяцяць дзе-ні-дзе лямпы. Ва ўсім раёне не было ніводнай школы, ні кіно, ні клуба...

* * *

Выбарчы ўчастак № 1—па Супраслеўскаму шасе. Невялікі драўляны домік на ўзгорку, увесь абвешаны выбарчымі лозунгамі і плакатамі.

Гэты домік належыць Сікорскаму—рабочаму аўтарамонтнай майстэрні. Разам з двума жыльцамі ён перабраўся ў кухню, прадаставіўшы тры пакоі для выбарчага ўчастка. Выбаршчыца Ядвіга Сінюта—швагерка Сікорскага—ўпрыгожвала памяшканне ўчастка. Муж яе, Аркадзій Сінюта, з'яўляецца членам выбарчай камісіі гэтага ўчастка, а брат Валянскі—членам выбарчай камісіі па выбарах у абласны Совет. Валянскія, Сінюты і Сікорскія—актывісты выбарчай кампаніі. Такіх сем'яў на Выгодзе нямала.

З самай раніцы наплыў выбаршчыкаў на гэтым участку становіцца масавым. Прыходзяць цэлыя сем'і. У маленькіх пакойчыках выбарчага ўчастка № 1 цесна, выбарчая камісія не можа прапусціць усіх выбаршчыкаў.

Рана з'явілася ў памяшканне ўчастка група рабочых 3-га тэкстыльнага камбіната, якая працавала ў начной змене і, не заходзячы дамоў, пайшла на ўчастак, каб выканаць свой грамадзянскі доўг. Вось прадзільшчыцы Зелянкевіч, Пуцілоўская, Мультан. Яны беражна біруць зялёныя і белыя бюлетэні, складваюць іх і асцярожна апускаюць у урну.

Галасуюць рабочыя 3-га камбіната: Багушэвіч з прадзільнага цэха, апаратчыца Рагачэўская, Гжэсь і Багушэвіч з аддзелачнага цэха, ткач Матошка. Галасуюць рабочыя тэкстыльшчыкі, якія па некалькі дзесяткаў год прапрацавалі на фабрыках Беластока; галасуюць таксама маладыя дзяўчаты і хлопцы, якія толькі зараз пачынаюць сваё працоўнае жыццё. На другім участку, па Танкавай вуліцы, галасуюць Чыж Чэслаў — 55-гадовы ткач 3-га камбіната, яго жонка Елена — работніца 23-й фабрыкі і іх 20-гадовая дачка Рэната, якая ўжо ў час совецкай улады абучылася рамяслу ткачыхі.

Памяшканне 2-га ўчастка выдатна ўбрана і абсталявана. Партрэты, плакаты, лозунгі на рускай і польскай мовах, іграе музыка. Пад'язджае на грузавіку група выбаршчыкаў з аддаленай Багнаўскай вуліцы. Адна з іх, Паўловіч Антаніна, былая работніца 1-га тэкстыльнага камбіната, зараз хатняя гаспадыня, заяўляе:

— Я ведаю, за каго галасую. Наш кандыдат у дэпутаты гарадскога Совета тав. Петрак была ў нас і расказвала нам пра сваё жыццё. Мы разумеем, што яна такі чалавек, які будзе клапаціцца аб нас, рабочых.

Выбаршчыкі Выгоды ведаюць сваіх кандыдатаў. Усё гэта свае людзі, тэкстыльшчыкі размешчанага паблізу 3-га камбіната: ткач-двухстаночнік, зараз начальнік ткацкага цэха тав. Пісарэвіч, лабарантка Петрак, чысцільшчыца Зарэмбская і іншыя.

Дружна галасуе Выгода за кандыдатаў Сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Тэкстыльшчыкі Выгоды галасуюць за совецкую ўладу, якая дала ім работу і ўпэўненасць у заўтрашнім дні.

— Совецкая ўлада дала мне ўсё, — гаворыць сталяр-саматужнік у мінулым, а зараз брыгадзір сталярнага цэха 17-й тэкстыльнай фабрыкі Грыгарчук. — У мяне вялікая сям'я. Пры ўладзе фабрыкантаў я працаваў толькі час ад часу, і ўвесь цяжар утрымання сям'і клаўся на маю жонку. Зараз я зарабляю да 800 рублёў у месяц. Жонка працуе на першым камбінаце, а сын, які два годы працаваў дарэмна ў аўтарамонтнай майстэрні, зараз працуе слёсарам на І-м камбінаце і зарабляе па 13 рублёў у дзень. Я магу цяпер лячыць хворую дачку, чаго не мог ніколі раней. Як і ўсе рабочыя Выгоды, буду ўласнымі-ж грудзьмі абараняць совецкую ўладу, якая дала мне заможнае жыццё.

Да урны падыходзіць выбаршчык Гаўрысь, інтэлігент, паляк па нацыянальнасці. Ва ўмовах капіталістычнай Польшчы гэты чалавек жыў у крайняй галечы. Ён, чалавек з адукацыяй, збіраў рыззё, старыя бутэлькі і шкло на звалках... Совецкая ўлада адкрыла яму дарогу ў жыццё — ён працуе зараз бухгалтарам на чыгуналіцейным заводзе. Пры апусканні бюлетэняў у выбарчую урну рука Гаўрыся задрыжэла, — ён не проста галасуе за кандыдатаў у гарадскі Совет, а галасуе за вялікае шчасце быць сапраўды чалавекам і жыць па-чалавецку.

З такімі пачуццямі ішла да урнаў уся пролетарская Выгода.

Да 9 гадзін вечара ўсе 100 процантаў насельніцтва Выгоды скончылі галасаванне.

**М. Навагрудскі.**

